№ 25 (141). Вільня, 8 Сьнежня 1938 г. Год X.




# Арганізуем месяц беларускай прэсы

Значэньне прэсы мы ўжо ня раз выясьнялі. Прэса — газэты, часапісы, сяньня ня толькі інфармуюць чытача аб тым што дзеецца ў краі і на сьвеце, ня толькі даюць матарыялы—артыкулы — навучаючыя, або такія, каторых чытаньне ёсьць прыемнай разрыўкай, але адначасна прэса ёсьць вялікім аружжам. Прэсай, газэтамі, друкаваным словам змагаюцца сяньня ня толькі партыі, ня толькі ідэолёгічныя кірункі, але нават вайсковыя арміі. Што прэса мае вялікае культурнае і палітычнае значэньне, сьведчыць найлепш факт шырокага разьвіцьця яе сярод народаў высокае культуры, як Францыі, Англіі, Даніі, Нарвэгіі, Швэцыі, Швайцарыі, Злуч. Штатаў Паўночнае Амэрыкі і інш. У гэных краёх трудна сабе прадставіць чалавека, які ня цікавіўся-б прэсай. З прыемнасьцю можам сьцьвердзіць, што і сярод Беларусаў апошнім часам зацікаўленьне прэсай узрастае. Доказам гэтага ёсьць весткі нашых супрацоўнікаў, якія паведамляюць, што ў тарговыя дні ўва ўсіх бадай местах і мястэчках нашага краю сяляне раскупліваюць усе газэты. Нажаль, надта моцна цешыцца з гэтага ня прыходзіцца. Бо хоць сяляне куплюць і чытаюць газэты і часапісы, дык найчасьцей чужыя — небеларускія, каторыя пераважна ня толькі не бароняць інтарэсаў беларускага народу, але аб Беларусах і не ўспамінаюць. Тымчасам беларуская прэса, беларускія часапісы больш чым скромныя, а найгорш тое, што дасюль няма ў нас ані належна сарганізаванага кольпортажу (распаўсюджаньня) на правінцыі, ані належнае прапаганды беларускага друкаванага слова. Уся гэтая справа стаіць на гэтулькі кепска, што немагчыма, каб далей так было! — Яшчэ сягоньня можна спаткаць людзей, каторыя ня ведаюць і ня вераць у тое, што можна дарогай легальнай (яўна) выпісваць і чытаць беларускія часапісы, ды агулам ня знаюць нават, што часапісы беларускія існуюць. У такім палажэньні неабходна трэба ўжо ня думаць, а тварыць, арганізаваць **прапаганду беларускае прэсы!**

Рэдакцыйная Калегія «Шляху Моладзі» пастанавіла **ад 15.XII.1938 да 15.I.1939 г. сарганізаваць месяц прапаганды беларускае прэсы.** Да ўчасьця і падтрыманьня гэтага месяца запрашаем усе беларускія часапісы і ўсё беларускае грамадзянства, а асабліва беларускую вясковую і студэнцкую моладзь. Мэтай гэтага месяца ёсьць абзнаямляць як найшырэйшыя масы беларускага народу з беларускімі часапісамі, заахвочваць іх да выпісываньня, купляньня, пашыраньня і чытаньня беларускіх часапісаў, бо толькі свае беларускія газэты і часапісы найлепш бароняць і найлепш дбаюць аб добры Беларускага Народу!

У нармальных абставінах у часе месяца беларускае прэсы трэба было-б арганізаваць адпаведнія лекцыі, рэфэраты, сабраньні, выдаць прапагандовыя афішы, лятучкі і г. д. З незалежных аднак ад Беларусаў прычынаў усяго гэтага прыходзіцца сяньня вырачыся. Дзеля таго арганізацыя і ўдача месяца прапаганды беларускае прэсы залежыць толькі ад добрае волі паасобных грамадзян і іхняе працы ў сваім асяродзьдзі. Вось-жа кожны беларус, якому дарагой ёсьць справа Беларускага Народу, справа беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху, павінен ад 15.XII.1938 да 15.I.1939 г., асабліва падчас вольнага часу Калядніх Сьвятаў, пасьвяціць сябе выключна дзеля таго, каб як найлепш паінфармаваць усіх сваіх суседзяў, бліжэйшых і далейшых, аб беларускай прэсе, заахвоціць іх чытаць, выпісываць акуратна пасылаць падпіску і пашыраць беларускія часапісы. Тых што маюць здольнасьці да пяра трэба заахвоціць да пісаньня ў свае часапісы. Творачы, разьвіваючы і пашыраючы беларускую прэсу будзем узмацоўваць беларускую культурную працу, пашыраць асьвету і здабываць лепшую долю!

Дык, Грамадзяне падтрымлівайце і пашырайце сваю беларускую прэсу. Пры агульным падтрыманьні яна разаўецца, узрасьце, будзе часьцей і акуратне выходзіць, будзе належна інфармаваць, навучыць, бараніць і пацяшаць. На гэта ня трэба нават вялікіх сумаў, нехай кожны Беларус дасьць хоць па 1 па 2 злотыя ў год на беларускія часапісы, выракшыся шкоднае выпіўкі ці тытуну, а будуць ужо вялікія капіталы і будзем мець сваю багатую беларускую прэсу.

Дык, усе да працы!..

# Вялікія нямецкія пляны і Беларусь

Нябывала хуткі і вялікі разрост Нямеччыны зьвярнуў на яе вочы ўсяго сьвету. І цяпер усе бадай пытаюць і думаюць: якія далейшыя нямецкія пляны і што Немцы далей будуць рабіць? Пытаньне гэтае шырока разглядаюць розныя палітыкі і публіцысты, якія пакуль-што сьцьвярджаюць тры наступныя пункты нямецкіх плянаў: 1. дамаганьне калёніяў, 2. пашырэньне нямецкіх уплываў у паўдзённа-эўрапейскіх гаспадарствах (Чэхаславакія, Румынія, Мадзяршчына, Югаславія, Баўгарыя, Турэччына, Грэцыя) і 3. паход на ўсход — у Саветы і ў Азію.

Што канкрэтна ў найбліжэйшым часе пачнуць рабіць Немцы, — дакладна ніхто ня ведае. Фактам аднак ужо ёсьць, што павадыр Нямеччыны Адольф Гітлер што-раз мацней і вастрэй дамагаецца калёніяў, а так-жа што Немцы энэргічна працуюць дзеля здабыцьця ўплываў у Румыніі, Югаславіі, Баўгарыі, Грэцыі і Турэччыне, каб магчы там пашыраць свае прамысловыя тавары. Чэхаславакія ўжо выразна заняла становішча філёнямецкае (за немцаў). Адносіны нямецка-мадзярскія няясныя з прычыны Карпацкае Украіны, каторую Мадзяры хацелі сабе забраць і мець супольную польска-мадзярскую граніцу, да чаго так-жа імкнуліся і палітыкі польскія. Гэтыя імкненьні прычыніліся, між іншым, і да ахаладжэньня нямецка-польскіх адносінаў. — Чаму? — Таму, што, як пішуць газэты, Карпацкая Украіна мае быць першым крокам да наступу на Саветы. Згэтуль мае быць праводжана антысавецкая прапаганда і калі-б у Савецкай Украіне пачаўся бунт, тады нямецкая армія магла-б маршыраваць на Украіну. З Карпацкае Украіны Немцы будуць мець доступ у Румынію, каб адтуль прывозіць сабе нафту. Дзеля таго ў хуткім часе маюць пачаць будаваць вялікую аўтостраду (шырокую цьвёрдую гладкую дарогу) названую „Захад—Усход", якая будзе йсьці з Бэрліна праз чэскую краіну Моравію, Славакію і Карпацкую Украіну да румынскае граніцы. Адтуль-жа недалёка і ў Саветы.

Камуністычна-сталінскія палітыкі ў СССР, каторыя ня так даўно заяўлялі Польшчы, што калі яна пойдзе вайной на Чэхаславакію, дык СССР сарве падпісаны з Польшчай дагавор аб ненападаньні, пабачыўшы, што дзеецца, дамагаюцца сяньня супольнае польска-мадзярскае граніцы і разбору Карпацкае Украіны, бо гэта аддзяліла-б ад беспасярэдняга кантакту Немцаў з Украінай. Пры тым між прадстаўнікамі польскага і савецкага ўрадаў падпісана надовячы дэклярацыя, што ўсе савецка-польскія дагаворы аб добрасуседзкіх адносінах ёсьць важныя і трывалкія.

У гэтым часе на захадзе Эўропы пашыраецца палітычная мапа, на каторай азначаны граніцы: **незалежнае Украіны і незалежнае Беларусі.** Польская прэса: „Ілюстраваны Кур'ер Цодзенны" (ІКС) і „Польска Збройна", каторыя перадрукоўвалі гэтыя мапы, бачаць у іх нямецкую работу.

Фактычна справа гэтая ня новая, аб ёй многа ўжо пісалася ў 1933 г., калі толькі Гітлер браў у Нямеччыне ўладу ў свае рукі. Уваходзіць яна ў усходнія пляны нямецкае палітыкі, каторыя быццам падтрымлівае і Муссоліні. Паводле газэт, у 1933 г. у Лёкарно адбылася нарада гітлераўцаў, італьянскіх фашыстаў і прадстаўніка Украінцаў, на каторай ад імя Гітлера выступаў галоўны кіраўнік заграніцнае палітыкі гітлераўскае партыі А. Розэнбэрг. Вось-жа быццам гэны палітык дзеля разьбіцьця СССР і камуністаў апрацаваў плян стварэньня незалежнае Беларусі і Украіны.

Фантазія некаторых газэтных пісакаў пасунулася ўжо так далёка, што яны апісываюць магчымасьці і спосабы нямецка-савецкае вайны і ейныя вынікі. Справа гэта сапраўды цікавая, бо спаткаліся-б у гэтай вайне дзьве найвялікшыя ў Эўропе сілы мілітарныя і два праціўныя сабе кірункі ідэолёгічныя. Калі ходзіць аб Нямеччыну, дык падчырківаюць наступныя мамэнты: 1. цяжкае палажэньне эканамічнае Нямеччыны і 2. укрытую

---

Dr. Jadviha i Stanisłaŭ Hrynkievičy 17)

## Pieršaja pomač pry raptoŭnaj chvarobie.

### Pierałomy kaściej

Pierałomy kaściej mohuć być abo padskurnyja, h. zn. nutranyja, zakrytyja, abo adkrytyja, kali adłomanyja kavałki kości vychodziać praz skuru. I tut i tam treba tak złažyć złomanuju kość, kab kančyna mieła narmalny vyhlad, pakłaść złomanuju ruku ci nahu pamiž dźviuma doščačkami ci dvuma kavałkami ćviordaje papiery i aściarožna pieraviazać kavałkami pałatna, ci šniurka — i tady zaviaść ci chvoraha da lekara. Kali padčas pierałomaŭ jość na skury rana, treba jaje napierad ačyścić jodam. Usiu rabotu rabić čysta vymytymi rukami.

### Paviešańnie

Treba adrazu asvabadzić paviešanaha z piatli, i dać jamu dostup śviežaha pavietra. Pakul pryjdzie lekar, treba rabić štučnaje dychańnie.

### Bićcio serca

Moža tut być pryčyna ŭ chvarobie serca, abo v, stupaje bićcio serca ŭ ludziej nervovych, jakija majuć niejkija nutranyja pieražyvańni ci pierapałochany. Moža być pryčynaj i ciažkaja fizyčnaja praca.

Kali pryčyna ŭ chvarobie samaha serca, dyk treba jaho lekavać. U inšych prypadkach treba pakłaść hanučku zmočanuju ŭ ściudzionaj vadzie na serca, a ŭnutro pryniać lakarstva, prykł. natrium bromatum 0,5 abo valerjany 15-30 kapiaŭ z vadoj.

### Kanvulsii (sudarhi) padučaja chvaroba

Pryčyny ich nadta roznajakija, najčaściej adnak chvaroby *mozahu* ci prynamsia tyja chvaroby ahulnyja, jakija miž inšym pasiaredna mahli paškodzić mozah. Dzieci mohuć adkliknucca kanvulsyjami amal nie na kožnuju chvarobu, bo ichni arhanizm da niekalkinaccaci hadoŭ žyćcia maje roŭnavahu nadta niatryvałkuju.

*Lačennie*: Naŭpierad, kali heta tolki mahčyma, znajšci treba pryčynu kanvulsyjaŭ. Z čaściejšych pryčynaŭ u dziaciej treba padčyrknuć doŭhatryvałyja

апазыцыю. Для Нямеччыны важна так-жа, якое на выпадак вайны з Саветамі займе становішча Францыя, каторая з СССР мае ваенны саюз. Дзеля таго вялікае значэньне прывязваецца да дагавору, каторы 6.XII.1938 г. падпісала Нямеччына з Францыяй аб добрасуседзкіх адносінах. Маюць у гэтым вялікае значэньне так-жа вострыя супроць-францускія выступленьні ў фашыстаўскім італіянскім парлямэнце, дзе высунуты дамаганьні адабраць ад Францыі некаторыя ейныя калёніі. Такім чынам увага Францыі адцягнута будзе на захад і нямецкія заходнія граніцы будуць забясьпечаны.

У СССР знаўцы бачаць перад усім аслабленьне арміі рознымі чысткамі і незадаваленьне насельніцтва з камуністычна-сталінскіх парадкаў. На гэта звярочвалі ўвагу і мы ў № 3 „Шляху Моладзі" з дн. 20.I 1938 году. — Савецкая армія прадстаўляе сабой збор розна-нацыянальных людзей, якія маюць свае нацыянальныя імкненьні і якім цэнтралістычна - камуністычна - маскоўская палітыка стаіць косьцю ў горле. І бязумоўна, калі кліч Гітлера да бунту за незалежнасьць Украіны і Беларусі дойдзе да Украінцаў і Беларусаў у СССР, то хоць Гітлер і ягонае нацыянал-сацыялістычная ідэолёгія, перад усім для Беларусаў, ёсьць далёкая, то аднак кліч гэты будзе мець шырокае падтрыманьне, асабліва, калі пляны Гітлера будуць пастаўлены пaverважна, а не дзеля таго толькі, каб каго-небудзь страшыць і гэтым вытаргоўваць тыя ці іншыя ўступкі. Бальшавікі павінны мець жаль толькі самі да сябе, бо да гэтага вядзе іхняя палітыка нішчэньня беларускае нацыянальнае культуры і беларускага нацыянальна - адраджэнскага руху.

Што-ж Нямеччыну цягне так на ўсход? Няўжо-ж Немцы сталіся такімі дабрадзеямі і хочуць, ні на што не зважаючы, памагчы Украінцам і Беларусам, тады калі ўсім добра ведама, што цяпер ніхто нікому безкарысна не памагае. Вось жа таксама і з Нямеччынай. Немцы перад усім хочуць карыстаць з украінскага і беларускага збожа, мець у Украіне і Беларусі збыт на свае прамысловыя тавары, разьбіць найвялікшых сваіх ворагаў камуністаў, а далей — здабыць доступ да Чорнага Мора. З Чорнага-ж Мора, з Украіны, з Турэччыны Нямеччына хоча дастацца ў Азію, у Багдад, дзе вялікія багацтвы нафты, а адтуль аж у багатую Індыю. Словам, кажны, як кажуць, добры перад усім для сябе, кажны глядзіць сваіх інтарэсаў. І такім прынцыпам кіруюцца сяньня ўсе народы сільнейшыя. **Такім прынцыпам прымушаны кіравацца і ўсе народы слабейшыя.**

Зазначаем яшчэ раз, што ўсё адносна нямецкіх плянаў падаем паводле апісаньняў польскае прэсы. Што з усяго гэтага выйдзе, — пакажа хіба ня так ужо далёкая будучыня. Для Беларусаў з усяго гэтага важна ёсьць перад усім тое, што **беларуская справа, беларуская праблема становіцца праблемай міжнароднай.**

**Я. Н.**

* * *

*І прыціх, як няма, адпеяў, адшумеў,*
*А на праўду ў грудзях агонь полымем б'е*
*І злы лёс ў барацьбе сіл зламаць ня здалеў —*
*Вестак толькі у сьвет ні даваў аб сабе.*

*І заснуў, як рака зімой скутая льдом,*
*Дый пад лёдам бурляць быстры воды яе,*
*І як гляне вясна, зашуміць крыгалом,*
*Край паводкай яна навакола зальле.*

*Гэй! ты муза мая! Што-ж ты стала ў баку*
*І стаіш і маўчыш ў атупеньні нямым,*
*Падыйдзі-жа бліжэй, падай сьмела руку,*
*Песьню мо' як калісь з табой зноў запяем!*

*Н. ЖАЛЬБА.*

vanity, chvaroby stravatraŭčaha aparatu, haračka. U ludziej darosłych — roznajakija chvaroby mozahu, jakija prajaŭlajucca ŭ takoj ci inšaj formie padučaje chvaroby. — Chvoraha treba zabiaśpiečyć, kab nie *paškodziŭ* sabie hałavy, jazyka i ahułam cieła. Pry napadzie kanvulsijaŭ pakłaść pad hałavu miakkuju padušku, kažuch ci što inšaje. Kab chvory nia prykusiŭ jazyka — dać čaranok dzieraŭlanaje łyžki pamiž zuboŭ. Razšpilić vopratku, kab nie zadušyŭsia. Z lekaŭ najlepš chloral hydrat u levatyvie ŭ kolkaści ad 0,25 hrama (dzieci) da 2,5 hrama (u darosłych).

### Kryviatok

Pryčyna — paškodžańnie ŭ taki ci inšy sposab kryviachodnych žyłaŭ.

*Lačennie*: Kali kroŭ ciače z nahi, ruki i h. d., dyk kab spynić kroŭ, treba pakłaść bandaž Esmarcha vyšej ad miesca, jakoje kryvavić. Bandaž možna zrabić z chustki, pajasa, kuska pałatna i h. d. Bandaž taki treba mocna zaviazać. Kali kroŭ ciače z małych žyłaŭ, dyk chopić pakłaść na ranu niekalki kusočkaŭ suchoha, čystaha pałatna i stulna abviazać. Zaŭsiody pracavać kala rany z čystymi rukami. Kali jość pad rukami jod, tłonistaja vada (3 prac.), dyk zdezynfekavać ranu henymi lekami, a na ranu nakapać ci namačyć pałatno ŭ leku, što zaviecca *ferrum sesquichloratum*. Pry kryviatoku paśla plavicaŭ prypalić ranu lapisam (čortaŭ kamień).

Pry kryviatoku z vyrvanaha zuba — kusok merli namačyć u *słabym voccie, adrenalinie, tłonistaj vadzie, ferrum sesquichloratum* i henaju merlaju zapchać miesca vyrvanaha zuba.

Pry kryviatokach z nasa — ŭviaści ŭ nasavuju padź vatu, merlu namočanuju ŭ *tłonistuju vadu, ferrum sesquichlorat,* vocat. Pakłaść na nos źvierchu namočany ŭ ściudzionaj vadzie ručnik.

Pry kryviatokach z łohkich, stravatraŭčaha aparatu — łykać lod, lažać spakojna, nia kidacca, nie chadzić.

Kali nia ŭdasca vyšej pakazanym sposabam spynić kryviatoku, treba tady nieadkładna źviarnucca da lekara Abiazkroŭleńnie pahražaje nat' žyćciu chvoraha.

*Kaniec.*



# Biełaruski mastak Jazep Drazdovič

*(U 50-ja ŭhodki jaho naradzinaŭ)*

U kastryčniku miesiacy sioleta minuła 50 hod ad naradzinaŭ viedamaha biełaruskaha mastaka Jazepa Drazdoviča. Radziŭsia jon 1.X.1888 h. u zaścienku Puńki, Dziśnienskaha pav. Pačatki aśviety atrymaŭ ad svaje matki, jakaja viedała sapraŭdnaje imia svajho kraju i narodu jašče prad 1906 h.

Ad dziacinstva adčuvaŭ J. D. achvotu da rysunkaŭ i ad 1906 da 1910 h. vučyŭsia ŭ vilenskaj škole mastactva praf. Trutniova i mastaka Rybakova. U hetym časie ŭvajšoŭ jon u kantakt z biełaruskim centram i raspačaŭ svaju pracu na nivie biełaruskaha mastactva.

Najbolš mastak pracavaŭ u hraficy. Pierad usim vialikuju mastackuju vartaść majuć jahonyja rysunki, vykananyja tušam, pieravažna z natury. Hrafika Drazdoviča maje taksama vialikuju vartaść etnohrafičnuju. Jon sumlenna zarysoŭvaŭ viaskovuju chatu z jaje staraśvieckaj, dzieraŭlanaj archi tekturaj, staraśvieckija zvanicy, panadvorki, varoty, prydarožnyja kryžy, našyja śviatyni, zamčyščy aviejanyja lehiendarnym čaram hłybokaj staryny, a tak-ža haspadarčyja i chatnija pryłady, jak sochi, barony, pasudździe, narodnuju vopratku i h. d. Ahułam rysavaŭ jon usio, što mieła vartaść mastackuju i etnohrafičnuju Zajmajecca J. D. i režbaj u drevie, vykonyvaŭ płoska-režby partretaŭ, azdobnyja kii, herby, skrynki, papiarośnicy i inš.



Chata biełaruskaha paeta Fr. Bahuševiča. Rys. J. Drazdovič.

J. Drazdovič jość tak-ža źbiralnikam zabytkaŭ u halinie archeolohii. Sabraŭ jon pa zamčyščach šmat starych pradmietaŭ u postaci piečnych kachlaŭ, staroj pasudy i metalovych rečaŭ. Kalekcyju z hetaj haliny jahonaj pracy možna ahladać u Biełaruskim Muzei im. Ivana Łuckieviča ŭ Vilni. Tam ža znachodziacca i bahatyja albomy hrafiki mastaka. Drazdovič sapraŭdy sabraŭ bahatyja biełaruskija mataryjały.




Kreva z staradaŭnym zamkam. Rys. J. Drazdovič.

Ad 1930 h. Drazdovič staŭsia faktyčna biezrabotnym, prabyvajučy-ž u Dziśnienščynie, jak vandroŭny narodny mastak, zarablaje sabie na kusok chleba.

Narod Biełaruski, nažal, nia moža dać jamu naležnych mahčymaściaŭ žyćcia i pracy, adnak čałaviek hety nie vyrakajecca svajho biełaruskaha imia i dalej u mieru siłaŭ pracuje dla dabra biełaruskaha mastactva

## Гальяш Леўчык

У сувязі з прыпадаючым сёлета 25-лецьцем выхаду ў сьвет зборніка паэзіі Гальяша Леўчыка „Čyžyk biełaruski“, варта нашай моладзі прыпомніць аб адзіным з нашаніўскіх паэтаў, які застаўся па гэтым баку рыжскае мяжы ў сваім родным Слоніме.

Гальяш Леўчык — паходзіць з мяшчанскае каталіцкае сям'і. Перад вайной працаваў як магістрацкі ўрадавец ў Варшаве. Адарванасьць ад беларускіх сялянскіх і работніцкіх гушчаў зрабіла ўплыў на першы зборнік ягоных твораў.

Па вайне прыймае актыўны ўдзел у беларускім нацыянальным жыцьці, галоўна на культурнай ніве.

Як сэкрэтар сэнатара Уласава, шмат робіць дзеля зарганізаваньня беларускіх школаў на прасторы Навагрудзкага ваяводзтва (1924—25 г. г.).

Прыймаў удзел у закладзінах Б.І.Г. і К.

Балюча адчуваючы полёнізацыйныя ўплывы каталіцкага касьцёла, пераходзіць у мэтадызм, які тады пачаў дзеяць на беларускіх землях.

Зараз-жа закладаець мэтадыстаўскі зборы ў Слоніме, Дзярэччыне і ў інш мясцох. Выдаець белар.-мэтадыстаўскі часапіс „Дух і Праўда“, а пасьля іншыя.

Мэтадызм, як і можна было прадбачыць, адарваў паэта з часам цалкам ад беларускай літаратурнай дзейнасьці. Паэт усе свае здольнасьці пасьвяціў на пераклады розных мэтадыстаўскіх духоўных песьняў на беларускую мову. І толькі час ад часу друкуець у мэтадыстаўскіх часапісах свае вершы.

С. Хмара.

# З вастрожных успамінаў

„Ночка, темная ночь надвигается,
Хороша эта ночка в лесу,
Выручай меня силушка буйная,
Я из волі тюрьмы не снесу.“

Так, цёмная восеньская ноч. Асабліва цёмная яна ў цёмных сырых вастрожных камэрах. Апынулася нас гэтага дня ў аднэй камэры 21 чалавек. Ужо некалькі дзён ішлаператасоўка вязьняў, сьньня дакацілася яна да нашай камэры. Некаторых ад нас забралі, пры тым шмат дадалі. Людзі незнаёмыя, чужыя. Пераважна крыміналісты — забойцы, зладзеі. Палітыкуючых сабралася нас толькі двох, я і яшчэ адзін малады селянін. Разьмер камэры 5 на 5 мэтраў. На гэтай плошчы месьцяцца: печка, параша, стол і пару ўслонаў, сяньнікі на падлозе. Таўчэшся, як у ступе, недзе стаяць, недзе сесьці. Цесна таксама спаць. Папала мне легчы з адным крыміналістам, забойцам пад аднэй коўдрай. Ляжым на баку ног сагнуць нельга,—цесна. Не магу заснуць. Думы, думкі ціснуцца ў галаву. Смурод, задуха. Вакон адчыніць нельга, бо холад, асабліва для тых, што сьпяць каля вакна, а бяз сьвежага паветра цяжка робіцца. Паветра, як папсуюць, хоць сякеру вешай. Фортачка-ж дае зусім слабую вэнтыляцыю. Набліжалася поўнач. Ляжу нярухома, думаю. Аж недалёкі ад мяне сусед на нарах устае і кіруецца да парашы. У гэтым-жа часе бачу. мой сусед суне недзе ў бок левую руку. Дагадваюся—шукае нечае торбы. Капаецца ў першай з берагу торбе. Ня ведаю, нашоў што, ці не— але пайшоў спаць. Аднак не надоўга. Хутка йзноў па ціху ўстае, падыходзіць да вешалкі, здыймае торбу, кладзе яе на падлогу і нешта з ей робіць. Відаць знайшоў што трэба, бо павесіўшы на месца торбу вярнуўся на пасьцель і свабодна закурыў.

На другі дзень зраньня мой сусед хоць-бы што, ходзіць, гаворыць, пэўны сябе, як кароль. Аб начным выпадку маўчыць. Хачу ўзяць яго на досьлед, але маўчу аж да сьнеданьня. Калі ўжо ўсе ўселіся хто дзе піць вастрожную каву — пытаюся, паказваючы на торбу —

— Чыя?

— Мая,—кажа адзін вязень.

Сядзеў ён за забойства хлапца, за 4 яблыкі. Быў гэта памешчыцкі лясьнік, адзін з двох прысутных тут шляхціцаў, кепска ён чуўся сярод беларускіх сялян.

— Кажы, што прапала? —

Баяўся ён, каб яго хлапцы ў турме не пабілі — таму калі пабачыў, што я маю сярод вязьняў трохі міру, стараўся мне дагадзіць. Даваў хлеб, масла, пасьля падаянкі. Нічога я ад яго ня браў, бо крыўда была за маладога беларуса, каторага ён забіў. Аднак хацеў даць яму зразумець, што тут у турме беларусы на ім пры мне мсьціцца ня будуць, хоць-бы ён на гэта і заслугоўваў.

Шыманскі, — так звалі лясьніка, на пытаньне „што прапала“? — пярэчыў кражы, каб не раздражняць хлапцоў. Тады бяруся я на другі спосаб. Зварочваюся да ўсіх:

— Хлопцы, прызнайцеся, хто лазіў у гэтую торбу?

Маўчаньне. Сядзела тут двох старых вязьняў — адзін ужо адседзіў 12 гадоў па розных турмах, другі — 14. Хлопцы бітыя і злыя. Адзін з іх так-жа падняў голас:

— Прызнавайся, хто лазіў, а то труп на месцы.

— Хлопцы, — кажу, — нічога ня будзе, ніхто ня будзе мсьціцца — прызнайцеся падобраму. Устае тады із за стала Іван з Нехачаў, папросту Нехачавец—і кажа: —

— Гэта я, — курыць захацелася.

Нехачавец, дубіна здаровая. Хлопцы да яго з лаянкай і біцца — крычачы што і я, і я, і я даўно ня курыў, а красьці ня лез.

— Памятай Іван, каб болей гэтага ў камэры ня было

Іван падпарадкаваўся, — але другім вязьням тлумачыў:

— Але, ён хлапца за 4 яблыкі забіў, а ў яго закурыць ўзяць ня можна.

Думку Івана падзялялі шмат хто з вязьняў. Захар, каторы адсядзеў 14 год за напады і цяпер ізноў папаў, гаварыў:

—„Я, — кажа—сядзеў у Грудзёндзы якраз сярод шляхты, няма там нашаму брату месца. Каб—кажа—папаў туды наш селянін, які-б забіў абшарніка, дык яго-б у адну ноч зьвялі б са сьвету. А тут бачыш, не пазволена.

Часткава я з ім згаджаюся. Бо й запраўды паступак Шыманскага быў нялюдзкі. Прыехаў ён з аб'езду лесу да хаты, жонка сказала, што хтось лез па яблыкі ў сад, расказала як адзеты і як выглядае. Шыманскі сеў на ровэр, дагнаў хлопца на дарозе і ззаду з рэвольвара забіў. Як папаў ён у нашу камеру, вастрылі на яго зубы нашы хлопцы. Баяўся ён як агню нашай камеры. Гразілі яму на спацэры праз вакно. У камеры чуўся прыбітым, глядзеў на кожнага са страхам, уступаў з дарогі, з месца. І таму хацелася паказаць яму ўсю агіду ягонага паступку, выжшасьць маралі і этыкі Беларуса над маральлю і этыкай яго, які меўся быць „культуртрэгерам“ на нашых „Крэсах.“ Хацелася паказаць, што беларус у кожным бачыць чалавека і шануе людзкую годнасьць.

Шыманоўскага хутка звольнілі. Ці зразумеў ён сваю памылку і лекцыю, якую далі яму ў вастрозе беларускія сяляне — няведама.

П. З.

* * *

*Сонца згасла. Ноч настала.*
*Цьма. Навокал ціш.*
*Ноч мне жудна ўсьцяж шаптала:*
*Ты чаму ня сьпіш?*

*Спаць?! О не! Ня хочуць вочы.*
*Ўцёк сон адмяне.*
*Працаваць я рад, ахвочы*
*На'т і ў ночы, ў цьме.*

*Буду клікаць, звонам сталі*
*Ўсіх сялян-братоў,*
*Што дагэтуль яшчэ спалі*
*Сном сваіх дзядоў.*

*І што восеньню імглістай*
*Зьбіліся з дарог,*
*Склічу я на шлях сьвятлісты,*
*І да перамог.*

*Пройдзе восень... Цемра ночы...*
*Сьветлаю вясной*
*К працы ў поле люд рабочы*
*Выйдзе грамадой.*

ЯНКА БУНТАР.

## З цыклю: „Двaix"

*Пакінь... Пакінь казаць —*
*вось ты няўдзячны!*
*Пакінь пытаць—кахаеш ты мяне?*
*Скажу я ясна — ня двузначна...*
*Як толькі ноч зямліцу ахіне.*

*Скажу...*
*Як толькі дзень расой агладзіць*
*На гонях вузкіх сьвежую ральлю,*
*Пад іней ціхі... ў лістападзе,*
*Скажу на вуха—я цябе люблю...*

*Люблю цябе, вясна як расьцьвітае,*
*Люблю цябе ў мляўкі летні жар,*
*Люблю, як восень золата ўплятае*
*Ў бярэзьніка задуманы гушчар...*

*Хоць ноч агонь украдзець*
*мімаходам,*
*Я жару ў сэрца з воч тваіх нальлю*
*І хоць зіма павісьне галалёдам,*
*Я сэрцам...*
*сэрцам галалёд стаплю!..*

К. КРЫВІЧ.

## Літаратурныя навіны

**10-ці годзьдзе літаратурнае творчасьці Міхася Машары.** Сёлета мінула 10 год як ведамы беларускі малады паэт Міхась Машара працуе на бел. літаратурнай ніве. З прычыны гэтага юбілею ў наступным нумары „Шл. Мл." зьмесьцім асобны артыкул аб творчасьці М. Машары.

**Новая кніжка Кс. Ад. Станкевіча.** Ведамы беларускі дзеяч Кс. Ад. Станкевіч напісаў новую кніжку п. н. „Хрысьціянства і Беларускі Народ." Кніжка гэта хутка ўжо пойдзе ў друк.

**Другое выданьне зборніка „З пад стрэх саламяных."** У Вільні рыхтуецца да другога выданьня зборнік вершаў ведамага нашага песьняра Міхася Машары п. н. „З пад стрэх саламяных." Першае выданьне гэтага зборніка было ў 1937 годзе сканфіскавана адміністрацыйнымі ўладамі.

**Творы Т. Шэўчэнкі пабеларуску.** У 1939 г. прыпадаюць 125 угодкі нарадзінаў найвялікшага украінскага паэта Тараса Шэўчэнкі. З гэтай прычыны беларускія паэты ў БССР Я. Купала, Я. Колас, Зьмітрок Бядуля, К. Крапіва, П. Броўка, П. Глебка, А. Куляшаў, М. Клімкавіч пераклалі на беларускую мову творы Т. Шэўчэнкі, якія маюць у хуткім часе выйсьці ўжо з друку.

**Юбілей часапісу «Літэрарішэ Блетэр.»** Жыдоўскі літаратурны часапіс „Літэрарішэ Блетэр," каторы выходзіць у Варшаве, у мін. месяцы сьвяткаваў 15-тыя ўгодкі свайго існаваньня. Закладчыкам гэтага часапісу быў, між іншым, б. п. Барыс Клецкін, які ў Вільні выдаў шмат цэнных беларускіх кніжак.

**Літаратурная нагарода Нобля** прызнана сёлета ведамай амэрыканскай пісьменьніцы Пэрль Бук (Pearl Buck), аўтарцы галоснае трылёгіі з жыцьця кітайскіх сялян: „Багаслаўленая зямля," „Сыны" і „Людзі ў расчараваньні," пертлумачанае бадай на ўсе эўрапэйскія языкі.

**Літаратурная нагарода м. Варшавы** прызнана сёлета Леапальду Стаффу. Ведамы гэты польскі паэт і пісьменьнік паходзіць з Львова.

## Z biełaruskaha žyćcia

**„Chryścijanskaja Dumka" tydniovikam.** Pačynajučy ad novaha 1939 hodu „Chryścijanskaja Dumka," jakaja dahetul vychodzić try razy na miesiac, maje stacca tydniovikam. Budzie heta adziny biełaruski tydniovy časapis.

**Ks. J. Hermanovič u Rymie.** Daviedvajemsia, što viedamy biełaruski piśmieńnik Ks. J. Hermanovič (Vincuk Advažny), jaki vyjechaŭ sioleta z Vilni paśla vysialeńnia biełaruskich zakońnikaŭ Maryjanaŭ z Drui, prabyvaje ciapier u Rymie.

**18-tyja ŭhodki Słuckaha Paŭstańnia.** Sioleta ŭ śniežni m-cy minaje 18 hadoŭ ad aružnaha Słuckaha Paŭstańnia suproć balšavikoŭ, jakoje mieła na mecie baranić niezaležnaści Biełarusi. Aružnaja baraćba słuččakoŭ za intaresy Biełaruskaha Narodu, jość adnym z najvažniejšych mamentaŭ u historyi biełaruskaha adradžeńnia.

**«Беларускі Сялянскі Календар на 1939 г.»** Нядаўна выйшаў з друку і паступіў у продажу „Беларускі Сялянскі Календар (Кніжка) на 1939 г." Календар гэты надрукаваны гражданкай, мае два стылі: стары (праваслаўны) і новы (каталіцкі), зьмены месяца, пагоды, беларускі гістарычны аддзел, вялікі і цэнны аддзел гаспадарскі, у якім абгаворваюцца наступныя справы: польная гаспадарка, землявробская тэхніка, хатняя гаспадарка, вэтэрынарыя, гародніцтва, жывёлагадоўля, гігіена, календар цяжарнасьці ў жывёлы. Апрача таго зьмешчаны ў календары цікавыя і цэнныя матарыялы агульна-культурныя, багаты аддзел інфармацыйны і ўрэшце байкі ды сьмяхотныя жарты. Зьмест календара сапраўды багаты і цікавы. Агулам календар мае 128 бачынаў і прыгожую вокладку. Цана-ж яго толькі 50 гр. Хто купляе больш лік дастае спуск. „Беларускі Сялянскі Календар" павінен старацца мець кожны беларускі селянін.— Стараючыся купіць гэты календар трэба выразна жадаць Беларускага Сялянскага Календара. На гэта зварочваем асаблівую ўвагу.



Pieršy śnieh.

## ШТО ЧУВАЦЬ

— У **Польшчы** адбываецца бюджэтная сэсія Сойму і Сэнату. Маршалкам новага Сойму выбраны праф. Макоўскі, а маршалкам Сэнату — палкоўнік Медзінскі. — Украінская Парлямэнтарная Рэпрэзэнтацыя прыгатаўляе праект закону, які мае падаць у Сойм аб прызнаньні Украінцам у Польскай Рэспубліцы тэрыторыяльнай аўтаноміі. Справа гэта адразу выклікала супраціўленьне з боку польскіх па слоў.

— У **Літве** 5.XII сёл. адбылася частковая зьмена ўраду. Прэм ерам далей астаўся кс. Міронас. Дасюлешні міністар загранічных спраў Лозарайтіс падаўся ў адстаўку, яго-ж месца заняў дасюлешні віцэ-міністр загранічных спраў Урбшыс. Новымі міністрамі зьяўляюцца так-жа мін. абароны ген. Мустэйкіс, мін. справядлівасьці Гудаўскас, мін. земляробства Скайсгіріс і міністр камунікацыі інж. Гернанас. Новы ўрад, так як і папярэднi, твораць прадстаўнікі Таўтінінкаў (Народнікаў). Што абазначае зьмена ўраду Літвы і чым яна выклікана — дасюль няведама Польскія газэты зазначаюць толькі, што палітыка мін. Лозарайтіса была накіравана да наладжаньня добрасуседзкіх адносінаў Літвы з Польшчай.

— У **Празе** чэскай 30.XI.38 прадстаўнікі Чэхіі, Славакіі і Карпацкае Украіны выбралі на прэзыдэнта свайго супольнага фэдэральнага гаспадарства др. Эміля Гаху. Пасьля гэтага цэнтральны чэскі ўрад ген. Сыровага, які кіраваў гаспадарствам у найцяжэйшыя для Чэхаў хвіліны, падаўся ў адстаўку. Новы цэнтральны ўрад стварыў пасол Р. Бэран. Прэм'ерам Славакіі далей астаўся кс. Тіссо, а прэм'ерам Карпацкае Украіны а. А. Валошын. Парлямант у Празе прыняў так-жа новую канстытуцыю для Чэхіі, Славакіі і Карпацкае Украіны.

— **Вайна на Далёкім Усходзе** між японцамі і кітайцамі далей адбываецца бяз большых зьменаў.

— У **Гішпаніі** барацьба адбываецца так-жа бяз большых зьменаў. Ня гледзячы на тое, чым кончыцца фашыстаўска-рэспубліканская вайна, трэба зазначыць, што галоўны камандзер рэспубліканскае арміі ген. Міаха ў гісторыі войнаў будзе адзначаны як адзін з найлепшых стратэгаў і камандзераў. Ён з людзей, якія ніколі не абходзіліся з аружжам, без афіцэрскага і падафіцэрскага корпусу стварыў гішпанскаму ўраду, рэспублiцы, каторую здрадзілі афіцары,



Ген. Міаха

ідучы да бунту з фашыстамі, армію, якая борыцца сапраўды пагеройску, адбіваючы сільнейшых фашыстаў, узмоцненых рэгулярнай арміяй нямецкай і італіянскай.

— У **Румыніі** адбываецца вострая барацьба між фашыстаўскай партыяй „Жалезная Гвардыя" і ўрадам Караля II, які так-жа мае аблічча фашыстаўскае, толькі крыху іншае. Жалезнагвардыйцы пачалі нядаўна вострую тэрорыстычную акцыю. У адказ на гэта ўрадавая паліцыя застрэліла галоўных павадыроў „Жалезнае Гвардыі", якія былі арыштаваныя. Паліцыя свой паступак апраўдывае тым, што быццам гэныя павадыры хацелі ўцякаць з-пад дазору паліцыі.

— У **Мадзяршчыне** ўрадавай партыі паўстаў развал. Ураду выражаны недавер. Некаторыя газэты пішуць, што сталася гэта дзеля таго, што частка мадзярскіх палітыкаў ня хоча выступаць супроць Нямеччыны і ня хоча забіраць Карпацкае Украіны. Урад-жа дагэтуль якраз імкнуўся да захапленьня Карпац. Украіны.

— У **Францыі** супроць гаспадарчае палітыкі ўраду выступіла работніцкая генэральная канфэдэрацыя, сацыялісты і камуністы, абвяшчаючы на 30.XI генэральны страйк. Супроць гэтага вострa выступіў урад і страйк поўнасьцю ня ўдаўся. І далей перамагае ўрад.

*jn.*

## USIAČYNA

**Chto ciapier vučycca ŭ Polščy ŭ himnazijach.** Statystyka padaje, što ŭ 1938 h. uva ŭsich himnazijach Polskaha Haspadarstva vučyłasia: 4 pracenty synoŭ i dočak abšarnikaŭ, 3,7 dziaciej ułaśnikaŭ mienšych falivarkaŭ, 10 prac. dziaciej bahatych pradpryjemcaŭ, 4,9 prac. dziaciej advakataŭ, dachtaroŭ i śviaščeńnikaŭ, 2,6 prac. dziaciej vajskovych aficeraŭ i padaficeraŭ, 27 prac. dziaciej ŭradaŭcaŭ, 11 prac. dziaciej ramieśnikaŭ i tolki 5 prac. dziaciej sialan i rabotnikaŭ. Kali voźmiem pad uvahu, što rabotniki i sialanie ŭ Polščy tvorać kala 85 pracentaŭ usiaho nasielnictva, to možam sabie pradstavić jak sapraŭdy mała sialanskich dziaciej vučycca ŭ himnazijach...

**Zmarnavanyja hrošy.** Za 1937 hod ŭ Polščy vypita 36,346,000 litraŭ čystaha śpirtu na sumu 353,919,000 zł. Tytunu-ž vykurana 18,314,000 kilahramaŭ na sumu 480,507,000 zł. Takim čynam ahułam zmarnavana za heny hod, nistožačy zdaroŭje ludzkoie, 834 miljony złotaŭ.

**Što vyvieziena apošnim časam z Vilenščyny zahranicu.** U m-cy kastryčniku sioleta vyvieziena z Vilenščyny zahranicu: 1460 tonaŭ papiaroŭki, 4,500 t. tarcicy, 6,000 m. kub. dykty, 220 tonaŭ lonu, 8,100 klh. sušanych hryboŭ, 200 klg. hryboŭ marynavanych, 28,500 klh. lekarskich ziołak. Tavary hetyja vyviezieny ŭ roznyja krai, jak u: Anhliju, Arhientynu, Zł. št. Paŭnočnaje Ameryki, Belhiju, Niamieččynu, Francyju, Daniju, Finlandyju, Łatviju, Hrecyju, Halandyju, Juhasłaviju, Švecyju, Švajcaryju, Estoniju, Partuhaliju, Hišpaniju, Madziarščynu, Italiju, Palestynu, Ehipt, Irlandyju i inš.




## Выбары ў самаўрад.

*Баранавічы.* Зацікаўленьне выбарамі ў самаўрад, якія ўжо пачаліся, у Баранавіцкім павеце даволі вялікае. Толькі ў шырокіх масах ёсьць нейкі недаверчывы настрой, ці самаўрад будзе мець належныя магчымасьці працы. Думаю, што падобныя настроі ёсьць і ў іншых кутках нашага краю. Дзеля таго хачу зьвярнуць увагу, што сёлета перад выбарамі прэм'ер Складкоўскі выдаў загад, каб выбары мелі магчымасьць адбыцца свабодна, бяз ніякіх націскаў і каб грамадзянства змагло выказаць сваю волю. Гэта дае надзею, што і нова-выбраны самаўрад будзе магчы належна працаваць. Калі-ж дзе будуць фальшы, дык іх трэба выцягваць на сьвятло і пратэставаць супроць несправядлівасьці. Дык усе бярэма дзейнае ўчасьце ў выбарах у самаўрад, і выбірайма сваіх людзей, карыстаючы з адпаведнае часіны.

*Баранавіцкі.*

## Каго слухай, але і свой розум май!

*в. Морач,* Нясьвіскі пав. У нашую вёску апошнімі часамі пачалі прыяжджаць розныя аграномы і інструктары. Разумеючы, што нашы жыхары малазямельныя, а то зусім беззямельныя, і што жывецца ім вельмі дрэнна, — пачалі прыездныя агітаваць, што гэтаму вінаваты самі гаспадары, што ня ўмеюць гаспадарыць і што з паўгэктара можна быццам мець такія ўраджаі, якіх хапіла-б на ўсе жыцьцёвыя патрэбы.

Што мы ня адпаведна гаспадарым—самі знаем. Але ці можна асягнуць з паўгэктара гэткія вялікія даходы, як хочаць „вучыць" нас абшарніцкія падлізы. Мне ня верыцца.

Мне здаецца, што яны хочуць нам закрыць вочы так, каб мы не дамагаліся зямельнае рэформы. Вось-жа, бязумоўна, трэба вучыцца лепш гаспадарыць, выкарыстываць цяперацінія доўгія вечары на чытаньне адпаведняе гаспадарскае літаратуры, але ня губляць галавы — мець свой розум і калі хто басьні расказвае, то належна іх аценяць і спатыкаць.

*Марачанскі.*



## Паштовая скрынка

**Я. Патап.:** 35 штук „Выбарнае ардынацыі ў самаўрад" выслалі.

**М. Рудко:** Верш надрукуем у наступным нумары. Карэспандэнцыя аб арганізацыі і сяржанце ня пройдзе праз цэнзуру, дык няма што яе друкаваць.

**Я. Брыльлю:** Антыалькагольны артыкул ахвотна надрукуем, але ў м-цы цьвярозасьці — г. зн. у м-цы лютым. У найбліжэйшыя-ж нумары намечаны ўжо адпаведныя матарыялы. Апавяданьне ахвотна паправілі-б, але пакульшто на гэта не хапае часу. Можа пачакаўшы, зробім.

**Баранавіцкаму:** Караспандэнцыю друкуем і чакаем на далейшыя матарыялы.

**Г. Дзя—шку:** Караспандэнцыю надрукуем і просім пісаць часьцей.

**М. Гал—вічу:** Вершы слабыя і да друку непадходзяць. Пісаць Вы можаце, але трэба лепш пазнаць тэхніку вершаваньня, бо яна ў Вас найбольш кульгае. Просьбу ў кнігарню перадалі. „Шл. Мол." праз увесь час высылаем Вам акуратна. Бракуючыя нумары высылаем паўторна.

**К. Крывічу:** Верш „Пакінь" друкуем, рэшта ня вытрыманыя ў рыфме і небясьпечныя з боку цэнзуры.

**М. К.** Карэспандэнцыі аб выбарах у Сойм не надрукуем, бо яна можа выклікаць канфіскату.





*„Шлях Моладзі" рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*
**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**
„ШЛЯХ МОЛАДЗІ" выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар каптатэкі „przekazu rozrachunkowego" 59.
Wydawca „Biełpres". Выдавец: „БЕЛПРЭС". Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1 Redaktor J. Najdziuk. Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.